# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 17 (1615) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 26 КРАСАВІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.




Выступае лялечны тэатр са школы № 2 у Гайнаўцы.

## ШКОЛЬНЫ БЕЛАРУСКІ ТЭАТР

Сёлетні — 1987 года — конкурс школьных тэатральных калектываў паказаў размах гэтай формы самадзейнага мастацтва. Больш: паказаў ён, што можам з поўным правам сказаць — маем жывы, багаты і пастаянна растучы школьны беларускі тэатр.

Гэта вялікае дасягненне ў першую чаргу настаўнікаў (у большасці беларускай мовы), якія арганізуюць школьныя беларускія тэатры, выхоўваюць малодых артыстаў і ставяць з імі п'есы. Артысты ж нам растуць. Пад апекай сваіх кіраўнікоў (адначасова рэжысёраў, сцэнарыстаў, харэографаў і харарактарызатараў у адной асобе) зглыбляюць сакрэты тэатральнага мастацтва, стаючы ствваральнікамі культурных каштоўнасцей.

Такія словы ціснуцца на паперу пасля цэнтральнага агляду школьных беларускіх тэатраў, які праходзіў у зале Бельскага дома культуры. На ім выступіла 8 школьных тэатраў, вызначаных на раённых аглядах, у якіх удзельнічала 15 тэатраў.

Найперш хочам выказаць падзяку ўсім 15 ШБТ (школьным беларускім тэатрам) за тое, што працуюць і дасканаляцца, што заахвочваюць сябе ісці ўперад, шукаць новых дарог, дабіваца вышэйшага ўзроўню.

Пытанне тут трэба паставіць і такое: ці калектыў, які не прайшоў на раённым аглядзе на цэнтральны агляд або не здабыў першага месца, сапраўды слабейшы? Так пытання ставіць нельга, бо гэта была б фальшывая ацэнка. Усе калектывы, усе тэатры маюць аднолькава важ-

(Працяг на стар. 4)

## РАМЯСТВО — ШТО НАМ ПРЫНЯСЛО?

Арганізацыйн рамесніцкай дзейнасці займаюцца ў Польшчы рамесніцкія цэхі, аб'яднаныя ў Ваяводскіх рамесніцкіх ізбах.

*„Дзейнасць рамесніцкіх цэхаў накіроўваецца на арганізацыю майстэрняў, якія абяспечвалі б насельніцтва асноўнымі бытавымі паслугамі, перш за ўсё ў такіх галінах як: цырульніцтва (фрызʼерства), шавецтва, рамонт прыладаў хатняй гаспадаркі, радыё- і тэлетэхнічнага абсталявання, сельскагаспадарчых машын“.*

Так гаворыцца ў Ваяводскім грамадска-гаспадарчым плане на бягучую пяцігодку. Там адзначаецца, што сказанае ў першую чаргу адносіцца да „...гмін, у якіх наглядаецца дэфіцыт паслуг, асабліва ва ўсходняй частцы ваяводства (Чыжы, Кляшчэлі, Кузніца, Новы Двор, Сураж)“.

Арганізатары эканамічнага жыцця на Беласточчыне, каб заахвоціць людзей да рамесніцкай актыўнасці ў гэтых гмінах ды ўвогуле ў гмінах і вёсках, гарантуюць ім шматлікія ільготы. Цяжка мне тут займацца падрабязнасцямі гэтых ільгот. Пра іх можна даведацца ў адпаведным цэху ці ў рамесніцкай ізбе, але магу запэўніць, што яны сапраўды шматлікія і ў першую чаргу адносяцца да ільгот у падатку і ў забеспячэнні пастаўак сыравіны і матэрыялаў, неабходных у працы рамеснікаў.

Апрача прыватнага рамяства, дзейнічаюць на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства 79 рамесніцкіх кааператываў, у распараджэнні якіх знаходзіцца амаль 7200 спулдзельчых прадпрыемстваў. Сярод іх знаходзяцца такія волаты, як спулдзельня працы па вытворчасці кашуль і пасцельнай бялізны „Бельпо“ ды хімічная спулдзельня працы „Бэтэска“. У „Бельпо“, для прыкладу, працуе зараз 1200 чалавек, грашовая вартасць яе прадукцыі сягае 5 мільярдаў злотых у год.

Ваяводскі кірмаш (гільдыя) рамяства і дробнай вытворчасці быў наладжаны ў Беластоку, у прасторнай спартыўнай зале клуба „Ягелоніі“, пад канец лютага г.г.

Я быў на гэтым кірмашы. Яго арганізатары запэўнівалі нас,

(Працяг на стар. 5)

ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА




Рамуальд Зайкоўскі у 1941 годзе быў ужо 13-гадовым падлеткам. Жыў і вучыўся ў Заблудаве.

— Пад канец навучальнага года накіравалі мяне ў піянерскі лагер у Друскеніках, — расказвае палкоўнік Зайкоўскі.

За выдатную вучобу і актыўную дзейнасць у піянерскай арганізацыі.

Былі гэта яго першыя канікулы, у якія пакідаў ён бацькоўскую хату. Раней, у даваенны час, мог ён толькі пазайздросціць сваім багацейшым аднагодкам, якія раз'язджалі па розных курортах. У яго бацькі не было ні ўласнай гаспадаркі, ні добра платнай пастаяннай працы. Наймаўся ён да ўсяго, што давала магчымасць раздабыць крыху грошай. Клаў брук на вуліцах Заблудава і Беластока, будаваў дамы ў навакольных вёсках, быў грузчыкам, наймаўся на лесазвал... Трэба ж было пракарміць і апрануць сябе, жонку, дзве дачкі і сына.

— Сабралася ў нас стракатая нацыянальная кампанія, — сцвярджае Рамуальд Зайкоўскі. — Я быў чыстакроўным палякам, а спадарожнічалі мне два хлапчукі яўрэйскай нацыянальнасці: Харашоўскі і Піня Лендэль. Райка Кардаш была беларусачкай, а яшчэ далучылі да нас адну рускую дзяўчынку, дачку афіцэра Чырвонай Арміі, які тады з абавязку службы знаходзіўся ў Заблудаве.

Я не здзіўляюся гэтай нацыянальнай стракатасці. Заблудаў на працягу ўсяго свайго існавання заўсёды быў прытулкам для людзей розных веравызнанняў і нацыянальнасцей. Яшчэ гетман Рыгор Хадкевіч, сам шчыры беларус і да смерці верны праваслаўю, калі загадаў будаваць у сваім Заблудаве першую царкву, то адначасова дазволіў узводзіць там таксама і касцёл. І яўрэі знаходзілі ў Заблудаве даволі спрыяльныя ўмовы для спакойнага жыцця і абяспечвання сваіх духоўных патрэб. Пад канец міжваеннага перыяду Заблудаў быў тыповым яўрэйскім мястэчкам. Увесь колішні рынак, дзе цяпер выраслі вялікія ўжо дрэвы, быў забудаваны яўрэйскімі крамамі.

— А якія сінагогі мелі яны ў Заблудаве! — захапляецца Рамуальд Зайкоўскі. — Асабліва

(Працяг на стар. 4)

## СЯБРЫНА

# СЯРОД ЛЮДЗЕЙ

**Размова з Данкай Шатыловіч**



**Міра:** Данка, ты — старшыня рады Згуртавання польскіх студэнтаў матэматычна-прыродазнаўчага факультэта беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта. Вельмі актыўны, канкрэтны чалавек. Адкуль ты родам такая?

**Данка:** Я з Чаромхі. Ад цягніка да свае хаты іду чатыры кіламетры, якія для мяне — найбольш прыемная ў свеце дарога. Незалежна ад пагоды, бо калі я вяртаюся дахаты, лёгка і добра ў мяне на душы.

**М.:** Вядома, вяртаешся да сябе.

**Д.:** Я моцна звязана з гэтай ваколіцай, хаця людзі тут, вядома, розныя: адны добрыя, іншыя горшыя, але я ўсіх ведаю здаўна, і таму ўсіх люблю. Не ведаю яшчэ, ці вярнуся ў Чаромху працаваць пасля заканчэння навукі, буду напэўна, аднак, бываць тут часта. Тут жывуць мае бацькі, сям'я, якія для мяне людзі, да якіх заўсёды хачу і мушу вяртацца. Думаю, што найбольш люблю маю наймяншую сястрычку, якая вучыцца цяпер у 3-м класе пачатковай школы. Яна найменшая, і таму ўсе ёй на ўсё дазваляюць, асабліва тата, усё „Аня ды Аня"...

**М.:** Чалавек любіць...

**Д.:** Думаю, што кожны чалавек трохі эгаіст, таму, напэўна, і я таксама. Але люблю знаходзіцца сярод людзей, гутарыць з імі, пазнаваць іх. Люблю адкрытасць, і таму я сама стараюся быць шчырай і вымагаю гэтага ад іншых. Люблю людзей, а асабліва дзяцей, і таму мая будучая прафесія — гэта праца з дзяцьмі і моладдзю. Калі хочам, каб нашыя наследнікі былі добрымі, мы павінны іх на такіх выхаваць.

**М.:** А каго ты бачыш пры сабе на тваё ўсё жыццё?

**Д.:** Хачу, каб той чалавек мяне разумеў, каб яго погляд на людзей быў падобны на мой.

**М.:** Ці бачыш такіх людзей сярод сяброў? Якія яны?

**Д.:** Моладзь у большасці замыкаецца ў малых групках. жыве праблемамі гэтых груп забывае аб тым, што прызнанне нас іншымі залежыць ад нас саміх, ад нашых адносін да кожнага чалавека. „Нашая" моладзь падобная на гэты прыклад агульны, з той толькі розніцай, што я адчуваю сувязь з нашай моладдзю. Часам хопіць мне толькі таго, што я пагавару з кім-небудзь па-беларуску, і адразу папраўляецца ў мяне самаадчуванне. Успамінаецца мне мой родны дом, дзе я адчуваю сябе найлепш і найбольш бяспечна.

**М.:** Данка, як ты бачыш жыццё?

**Д.:** Жыццё цудоўнае, таму што насуперак усяму, заўсёды можна знайсці нешта добрае. Я, напрыклад, хутка забываюся аб дрэнным, а памятаю дабро. Каб не было часам дрэнна чалавеку, ён не патрапіў бы цаніць дабро і хараство.

**М.:** Марыш аб добрым прыгожым жыцці сярод добрых людзей...

**Д.:** Мары і планы ў мяне — гэта дзве розныя справы. Марыць — гэта думаць аб тым, што не дасца ажыццявіць. Я марыла даўней пра тое, каб зажыць з чалавекам, якога пакахаю, у глыбіні лесу, у лесніцоўцы, далёка ад людзей і вялікіх праблем. Цяпер жа планую закончыць навуку, распачаць працу ў школе, думаю, што найлепш у вёсцы. Проста, хачу працаваць сярод людзей і для людзей.

Гутарыла
**Міра Лукша**

# КРАЯВІД ПЕРАД ПАТОПАМ



На дне будучага Семяноўскага заліва.

Фота Юркі Баброўскага.

# „УСХОДНЯЯ СЦЯНА" ЎМІРАЕ

На некаторых партыйных і адміністрацыйных, а таксама іншых сходах, усходнія, пагранічныя мясцовасці называюць „усходняй сцяной". А адзін з прадстаўнікоў партыйных улад з Варшавы гаварыў аднойчы, што там „усходнюю сцяну" называюць часам „сцяной плачу". І ў гэтай песімістычнай назве ёсць доля праўды. Пабываць на вёсках у такіх гмінах як, напрыклад, Нараўка альбо Крынкі, пабачыць пустыя хаты, занядбаныя сялібы, бязлюдныя вёскі і на плач можа сабрацца.

У Крыноцкай гміне гадоў 15-20 таму назад у вёсках было многа моладзі, многа дзяцей, працавалі школы. А што цяпер? Некаторыя вёскі набліжаюцца да канца свайго існавання, няма там моладзі, няма дзяцей. У іх жыве па некалькі сем'яў, а дакладней: па некалькі старых людзей, няздольных да цяжкай сялянскай працы.

Калісьці былі пачатковыя школы ў Гуранах, Лішчаной, Нетупе, Плебанове, Санніках, Крушынянах, Ласінянах, Азяранах і Юраўлянах. Цяпер пачатковыя школы толькі ў Гуранах і Крушынянах. Вучыцца ў іх па 40 дзяцей. Але ўжо няма там цяпер прадшкольных класаў, значыць — з восені не будзе ў іх і першых класаў. У гэтых школах працуе па 5 настаўнікаў. Але з кожным годам становіцца іх замнога. У чэрвені г.г. гуранскую школу закончыць 8 васьмікласнікаў. Значыць, будзе ў васьмікласнай школе толькі 32 вучняў — па некалькіх у класе. Сітуацыя проста ненармальная, таму што цяжка вучыць настаўнікам, калі ў класе надта многа дзяцей, але куды цяжэй, калі ў ім 2-3 вучняў.

Значыць, „усходняя сцяна" пачынае ўміраць.

Толькі падставовая школа ў Крынках — нармальная школа. Там у бягучым годзе вучыцца 475 дзяцей і працуе 29 настаўнікаў.

**(мх)**




## ГАСПАДАРКА — ГЭТА НЕ ФАБРЫКА

Андрэй Гаўрылюк у сваім крытычным і даволі вялікім фельетоне „Цяжка быць добрым" апісаў бельскі СКР (кааператыў сельскагаспадарчых гурткоў). Апісаў, як той СКР надакучыў добраму гаспадару Валянціну Семенюку з вёскі Райкі, якому так нібы дапамог нарыхтаваць сілас, што Семянюк мала не выракся яго. І яшчэ трэба было плаціць за тое.

Гаўрылюк пакрытыкаваў як трэба гэты бядовы СКР! Я веру яму ад першага да апошняга слова, веру, што напісаў ён адну праўду. Сам я няраз перажыў падобнае.

У канцы яго фельетона аднак я прачытаў словы, якія ўжо не датычылі справы Семенюка, а былі больш агульнай думкай Гаўрылюка як аўтара. А менавіта: „Ім належыць будучыня, а не тым, хто мае ўсяго каня, воз і плуг з ручкамі". Гаўрылюк меў на ўвазе, што малыя гаспадаркі не даюць і не могуць даваць вялікіх даходаў, бо і адкуль яны, тыя даходы, могуць брацца мільёнамі з пяці або і, нават, дзесяці гектараў? Гаўрылюк, магчыма, не ведае, што такія гаспадаркі ў нашай Беласточчыне якраз і пераважаюць, і што гаспадары на іх не лічаць сваёй працы, як у фабрыцы рабочы за кожную перапрацаваную гадзіну. Калі палічыць сваю працу на такой гаспадарцы, дык усе яны аказаліся б вельмі дэфіцытнымі. Тым не менш яны існуюць, і патрэбныя, даюць хлеб гаспадару і дзяржаве. Таму мяне крыху абразілі гэтыя словы Гаўрылюка, якія можна зразумець і так: беларускі гаспадар на традыцыйна невялікай беларускай гаспадарцы — гэта амаль гультай. А гэта няпраўда! Праўдай будзе хутчэй за ўсё тое, што на меншай гаспадарцы цяжка механізаваць работу, бо на машыны трэба мільёнаў. На меншай гаспадарцы зусім не менш работы, чым на вялікай, але механізаванай, ды з вялікай гаспадаркі больш карысці, вядома, больш збожжа з пяцідзесяці гектараў, для прыкладу кажучы, чымсьці з пяці ці дзесяці, хоць і лепей можа быць зямля апрацаванай. Не трэба, Гаўрылюк, пасмейвацца з нашых гаспадароў, не трэба гаварыць пра іх як пра тых, хто непатрэбна працуе і будучыня не да яго належыць. Будучыня — гэта такая штука, што залежыць яна ад людзей: якія людзі, такая і будучыня іхняя. Калі параўнаць нашага гаспадара з гаспадаром у глыбі Польшчы, то ясная справа, што каля Познані ці каля Каліша яшчэ пры цары жалі жыта жняяркамі, а ў нас не так вельмі даўно кінулі сярпамі жаць, у пяцідзесятыя гады дваццатага стагоддзя. Іншы лёс наш, беларускі, таму і гаспадаркі нашы слабейшыя, але гэта зусім не значыць, што трэба ўчыняць кпіну над імі.

Я быў разззлаваўся на Гаўрылюка мацней, але пасля падумаў, што злосць — гэта благі да-

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 3)




радчык, значэнне маюць не вострыя словы, але аргументы, рацыі „за“ і „супраць“. Дык я і выклаў свае рацыі, лічачы, што Андрэй Гаўрылюк напісаў тыя словы свайго фельетона непрадумана, і што сам ён, відаць, не працаваў на зямлі, глядзіць на яе па-гарадскому, як на фабрыку якую, даходную або банкрутную, што ледзь дыхае.

**Мікалай Панфілюк**

### НЕ ПАБОЛЬШАЛА БЕЛАРУСАЎ?

У „Ніве“ ад 16-га лістапада м.г. Алесь Барскі ў сваім фельетоне „На мяжы“ напісаў, што ў сённяшняй Польшчы жыве трыста пяцьдзесят тысяч беларусаў. Гэтую лічбу падаюць і іншыя, і то не першы год, а недзе ад пачатку шасцідзесятых ужо. Выходзіць на тое, што колькасць беларусаў нашых не змяняецца, усё трыста пяцьдзесят і трыста пяцьдзесят. Думаю, што трэба нарэшце задумацца над гэткім дзівам і прыгледзецца да пададзенай лічбы.

У „Sztandarze Młodych“ ад 24-26 кастрычніка 1986 г. змешчана інтэрв'ю з мітрапалітам Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, а. Васілём. Пры гэтай нагодзе рэдакцыя апублікавала трохі сваіх дадзеных адносна праваслаўных у Польшчы. „Sztandar Młodych“ піша, што лік праваслаўных у Польшчы складае 852 тысячы чалавек. Такую ж лічбу знаходзім у матэрыялах Аддзела інфармацыі ЦК ПАРП.

Усім вядома, што большасць праваслаўных у Польшчы — гэта беларусы. Якая большасць, наколькі вялікая? Калі прыняць, што большасць лічыцца ўжо трохі больш за палову чагосьці, дык атрымліваем лічбу 426 тысяч беларускіх людзей праваслаўнага веравызнання. Акрамя беларусаў, шмат праваслаўных бачым сярод украінцаў, ёсць трошкі рускіх і жменька праваслаўных палякаў.

Ян Голец у часопісе „Nadodrze“ Nr 17/1986 у артыкуле „Aby wygasić łuny w Bieszczadach“ паведамляе, што цяпер у Польшчы пражывае ад чвэрці мільёна да трохсот пяцідзесяці тысяч украінскага насельніцтва. Хто бліжэй цікавіўся ім, той ведае, што больш-менш палова яго — гэта грэка-каталікі; так, як даўней на Беларусі пераважала уніяцтва, а на Беласточчыне то і зусім не было ў вёсках праваслаўных прыходаў. Гэта гістарычныя факты, якія трэба ведаць, калі хочам нешта зразумець па-чалавечы.

І так, прыблізную колькасць беларускага насельніцтва ў цяперашняй Польшчы я ацэньваю на паўмільёна чалавек, а нават да шасцісот тысяч! Трэба пры тым памятаць, што ёсць шмат і такіх беларусаў, якія не ведаюць пра тое, што яны менавіта беларусы. Я маю на ўвазе людзей беларускай мовы і беларускай народнай культуры, але якія не праваслаўныя, а толькі каталікі. Насяляюць яны колішнія паветы Дуброўскі, Сакольскі, Беластоцкі.

**Багдан Цясноўскі**, Варшава.

## Свойскія малюнкі



*Стары Беласток. Вуліца Млыновая. Мал. Уладзіслава Петрука.*

# ШКОЛЬНЫ БЕЛАРУСКІ ТЭАТР

(Працяг са стар. 1)

нае заданне і выконваюць яго з запалам і адданнем, а гэта і ёсць тое найважнейшае, што трэба.

Гавару аб гэтым якраз на аснове бельскага цэнтральнага агляду школьных беларускіх тэатраў. Усе тэатры былі добрыя. Агляд быў такі багаты па зместу і па форме, што можам толькі выказаць сваё задавальненне і захапленне. І ўсе тэатры, якія выступілі на цэнтральным аглядзе, былі ўзнагароджаны. Таксама іхнія кіраўнікі-апекуны.

А чарговасць такая:

Барысаўка, гм. Гайнаўка, дасканалы тэатр жывога плана, выступіў ён з інсцэнізацыяй казкі „У Ліхадзеевым палоне“, мастацкі кіраўнік — Валянціна Дзмітрук.

Школа № 3 (беларуская) у Бельску, лялечны тэатр малых дзетак, выступіў з інсцэнізацыяй казкі „Свавольныя зайчаняты“, мастацкі кіраўнік — Ларыса Бурыла.

Дашы, гм. Кляшчэлі, драматызаваны тэатр, выступілі з п'есай „Выкруціўся“, мастацкі кіраўнік — Валянціна Андросюк.

Рыбалы, гм. Заблудаў (драматычны) выступілі з камедыяй „Паўлінка“, мастацкі кіраўнік — Лідзія Смалеўская.

Зубры, гм. Гарадок, тэатр жывога слова, выступіў з інсцэнізацыяй „Чароўнай чашы“, казкі па індыйскіх матывах, мастацкі кіраўнік — Ніна Буднік.

Школа № 2 у Гайнаўцы, лялечны тэатр, выступіў з інсцэнізацыяй казкі „У Ліхадзеевым палоне“, мастацкі кіраўнік — Вольга Андрэюк. Гэты тэатр працуе ўжо многа гадоў і быў першым лялечным школьным беларускім тэатрам. У гэтым тэатры выступае старэйшая школьная моладзь — дзяўчаты і хлопцы.

Райск, гм. Бельск, драматызаваны тэатр, выступіў з пастаноўкай п'есы „Старыя“, мастацкі кіраўнік — Ян Добаш.

Школьныя беларускія тэатры, якія выступілі на раённых аглядах у Гайнаўцы, Бельску, Кляшчэлях і не прайшлі на цэнтральны агляд, таксама працуюць плённа і аб іх некалькі слоў. Ласінка, гм. Нараў, выступіла з п'есай „Пасля ўрокаў“, мастацкі кіраўнік — Ніна Абрамюк. Махнатае, гм. Гайнаўка, паставіла дзве п'есы „Праведалі“ і „Прыходзь, ёлка“, мастацкі кіраўнік — Ян Міранюк. Чыжы выступілі з п'есай „Сустрэча“, мастацкі кіраўнік — Зінаіда Хмель. У Малінніках, гм. Орля, працуюць два тэатры, адзін выступіў з п'есай „Сынок“ пад мастацкім кіраўніцтвам Ніны Себясевіч, другі з п'есай „Выкруціўся“ пад мастацкім кіраўніцтвам Аляксандры Гаворка. Бельская школа № 3 паказала яшчэ адзін лялечны тэатр, які выступіў з п'ескай „Пшанічны каласок“ пад мастацкім кіраўніцтвам Міраславы Маркевіч і другі тэатр, які паставіў „Пасля ўрокаў“ пад мастацкім кіраўніцтвам Тамары Русачык.

Школьны беларускі тэатр працуе таксама ў школе ў Дубяжыне, гм. Бельск. Ён падрыхтаваў п'есу „Навагодняя сустрэча“ пад мастацкім кіраўніцтвам Неанілы Філіпчук, аднак не выступіў на аглядзе.

Звяртаемся з просьбай да ўсіх настаўнікаў: калі яшчэ дзе-небудзь існуе школьны беларускі тэатр, пра які мы тут не ўспомнілі, просім пільна нас паведаміць. Важна, каб сабраць у адно ўсе звесткі пра школьныя беларускія тэатры і даведацца пра ўсе праблемы, якія іх хвалююць.

**Вера Валкавыцкая**

Фота Паўла Еўца, вуч. VI кл., члена фатаграфічнага гуртка пры школе № 3 у Бельску

(Працяг са стар. 1)




адна, кедравая, без адзінага жалезнага цвіка! Вось якія майстры былі даўней!

Усё гэта згарэла ад нямецкай бамбардзіроўкі і гарматняга абстрэлу ў чэрвені 1941 года.

— У Друскеніні адвязла нас нейкая настаўніца, — успамінае ён. — На жаль, яе прозвішча я зараз не памятаю. Настаўнікі ў нас тады пазмяняліся. Польскія, якія вучылі нас да 1939 года, недзе паўцякалі, хіба перапалохаўшыся Саветаў, якімі іх пужалі на працягу ўсяго міжваеннага дваццацігоддзя, а на іх месца прыехалі зусім новыя людзі, хаця школа надалей у асноўным захавала ў нас свой польскі характар. Усе прадметы вывучалі мы па-польску. Толькі ў праграму навучання былі ўведзены яшчэ беларуская і руская мовы.

Рамуальд Зайкоўскі з наймалодшых гадоў свайго жыцця добра абслухаўся з мясцовай, заблудаўскай беларускай гаворкай, і гэта дапамагло яму хутчэй засвоіць і беларускую літаратурную і рускую мовы. Зразумела, ён тады не ведаў, што гэтая народная гаворка вельмі ж блізкая да літаратурнай беларускай мовы, што калісьці амаль чатыры стагоддзі таму назад, слаўныя першадрукары, Іван Фёдараў і Пятро Мсціславец, у гэтым жа Заблудаве, узялі тутэйшую гаворку за аснову да ўводзін у сваё „Вучыцельскае евангелле“, якое, між іншым, надрукавалі яны ў 1569 годзе ў гэтым жа Заблудаве.

Я запытаў у палкоўніка Зайкоўскага, што яму запамяталася з тых, так нечакана абарваных, канікулаў. Ён пасля кароткага роздуму адказаў:

— Прайшло ўжо амаль паўстагоддзя. Цяжка цяпер гаварыць аб нейкіх падрабязнасцях, хаця... — ён зноў падняў задуменныя вочы і адплыў успамінамі недзе ў зялёны край свайго дзяцінства. — Уявіце сабе, — гаварыў у задуменні, — шырокую, але даволі спакойную раку, сярод высакаватых берагоў, абрамаваных нагрэтым пяском пляжаў. А далей лес, высокі, сасновы, зялёны і нямоўкнучы. У гэтым лесе там-сям раскінутыя дамы — колішнія дачы і санаторыі. І ніхто не гоніць, каб даглядаць гусей, пасвіць кароў, рваць зелле для свіней. Наеўшыся ўдосталь... Дома ніхто нас так добра не карміў, здавалася нам, што беспярапынна адзначаем мы нейкае вялікае свята... Значыць, наеўшыся ўдосталь, звеннявыя або і піянерважатыя запрашалі нас на розныя гульні ці заняткі або і звычайна спускаліся мы да Нёмана, каб найперш пакупацца, а затым і пазагараць на цудоўным чэрвеньскім сонцы!

## БЕЛАРУСІКІ

**1982**

Barszczewski Aleksander, W poszukiwaniu autentyzmu. (Współczesna literatura białoruska). *Literatura na Swiecie* 1982 nr 11, s. 13—23, il.

Bryl Janka, Ogień, treść, idea, polot. Wyw. Tł. Barbara Dohnalik, *Literatura na Swiecie* 1982 nr 11 s. 132—138, il.

Bryl Janka, Dlaczego? — Jesteśmy przyjaciółmi. Tł. z białor. Anna Sobecka. *Nadodrze* 1982 nr 17. s. 8.

Bykau Wasil, Stado wilków. Tł. Andrzej Bień, Warszawa 1981. Rec.: Wojciechowski Jacek, *Miesięcznik Literacki* 1982 nr 10 s. 144—146.

Czanturija Władimir, Istorija architiektury Biełorussii. Izd. 2. Mińsk 1977. Rec. Baranowski Andrzej, *Kwartalnik Architektury i Urbanistyki* 1981 z. 3/4 s. 309—313, il.

Diemientiej N., Rozwój rolnictwa radzieckiej Białorusi. Tł. *Międzynarodowe Czasopismo Rolnicze* 1982 nr 6 s. 10—14.

E. K., Białoruskie rozmaitości. *Literatura na Swiecie* 1982 nr 11 s. 168—171.

Janowicz Sokrat, Samosiej. Warszawa 1981. Rec. Wężowicz-Ziółkowska Dobrosława, *Regiony* 1982 nr 1/3, s. 146—149.

Kabatc Eugeniusz, Posłowie do rzeczy białoruskich. W naszym otoczeniu. *Literatura na Swiecie* 1982 nr 11 s. 172—173.

Karpiuk Alaksiej, Z Warszawy do Białegostoku na dachu wagonu. Fragment noweli „Zwyciężca" Tł. Eugeniusz Kabatc. *Literatura na Swiecie* 1982 nr 11 s. 120—126.

Kisielow Tichon, Skuteczność działania zależy od ludzi (Białoruś) Korespondencja ze Związku Radzieckiego. Tł. *Trybuna Ludu* 1982 nr 50 s. 7.

Kołos Jakub, Kołysanka w noc bezsenną (w.) — I stuk też może być symfonią (w). Tł. Tadeusz Chróścielewski. *Literatura na Swiecie* 1982 nr 11 s. 8—10, il.

Kulaszou Arkadź, Jestem z domem swym złączony na wieki (w.) Tł. z białor. Włodzimierz Blatton-Segal. *Tygodnik Kulturalny* 1982 nr 30 s. 9.

Kupała Janka, A kto tam idzie? (w). — Jacy są (w) — Powiedz no mi, kmieciu mój... (w). Tł. Florian Nieuważny. — Weselnicy (w). — Czarny Bóg (w). Tł. Tadeusz Chróścielewski, *Literatura na Swiecie* 1982 nr 11 s. 3—7, il.

Kupała Janka, A kto tam idzie? (w). Tł. z białor. Włodzimierz Blatton-Segal. *Tygodnik Kulturalny* 1982 nr 30 s. 9.

Kupriejew Mikoła, Elegia (w). Tł. z białor. Włodzimierz Blatton-Segal. *Tygodnik Kulturalny* 1982 nr 30 s. 9.

Maldzis Adam, Inspiracje i kontakty (literackie polsko-białoruskie). Rozm. przepr. Anna Nasiłowska. *Radar* 1982 nr 29 s. 9.

(P.C.)

## ТАК БЫВАЕ...

# АД КАЛАТУХІ ДА ЗЯЛЁНАГА КОЛЬКІ

Мікіта і змалку быў гультай, махляр ды злодзей. Тое, што маці наварыла, есці не хацеў, у чужыя агароды залазіў, латашыў памідоры, маладыя гуркі, моркаўку, трускалкі чырванашчокія. І садам ён спуску не даваў. А ўвосень, калі ўсюды было пуста, лез Мікіта тайком на гарышча хаты, дзе бацькі трымалі каўбасы і вяндліну. Раз бацька падкараўуліў гэту заразу, як каўбасы цямкаў, і набаніў яго так, што на азадку парабіліся яму чорныя каўбасіны. Думаеце — адумаўся? Ага, рыхтык! Які з яйца, такі і да канца.

Мікіта не любіў брацца за работу. Іншая справа — з дзяўчатамі: не паспеў на троечках закончыць вясковую школку, а ўжо да паненак забегаў. Курыць і піць узяўся (за грошы маткі, бо бацька пакінуў іх, пайшоў у прымы да нейкае ўдавы). Забралі Мікітку ў войска і маці нават задаволеная была гэтым, спадзявалася, што ён там зменіцца, навучаць яго жыць. Не навучылі. Якім быў, такім і вярнуўся з войска.

Мікіта закахаўся ў Ліду, прыгожую і добрую, але, як і ён, любіла і яна прахлiснуць чарку. Свой свайго знойдзе.

Ажаніўся з ёю. Ну і папапілі яны на сваім вяселлі, аж танцаваць не мелі сілы... Ён пайшоў на работу, прынялі яго рабіць на чыгунцы. Спачатку прыносіў грошы Лідзе, аднак пачаў запіваць і грошай тых даваў ёй усё менш. Пакуль жылі яны ў Мікітавай маці, то старая ўспамагала іх, колькі магла. Потым пайшлі яны жыць на сваім. Нарадзіўся сын, і зараз дачушка. Ліда, аднак, кінула піць; гадавала дзетак. Хутка зразумела, што нічога ў яе не будзе: Мікіта прапашчы, і сама ўсё часцей запівала, узяла моду курыць, а яшчэ да мужчын зубы скаліць. Грошы свае мела, бо вельмі добра шыла яна сукенкі, блузкі. Дзеці падрасталі, хадзілі бруднымі, запушчанымі, галоднымі, вошы іх абселі. Суседзі літаваліся над імі, есці сёе-тое давалі.

А яна піла і шыла, шыла і піла. Мікіта, як і яго бацька, знайшоў сабе другую бабу, казалі, у мястэчку. Тая баба, як баба, паверыла яму, што піць кіне і чалавекам стане, прыняла яго да сябе. Марысяй называлася. Марыся надумала дзяцей Мікітавых пазабіраць да сябе, гадаваць па-людску. Толк у Марысі з Мікітам пабыў нядоўга, ён не толькі зноў распіўся, але і работу пакінуў, сварбы поўную хату напусціў. Сказала Марыся Мікіце цвёрда: праз тры дні каб тут і смуроду твайго не было! Выбіраўся ён ад яе, — выйшаў на вуліцу, а яна выбягае за ім на ганак і крычыць, каб усе чулі:

— Мікіта, нагавіцы свае забірай, нашто ты мне іх пакінуў!

Мікіта прыбіўся назад да Ліды з дзецьмі. Абое пілі, курылі, а дзетак голадам марылі. Ліда ўжо не шыла, кабеты не прыносілі ёй работу, бо яна, па-п'янаму, псавала матэрыял.

Мікіта пабыў з Лідаю, пабыў, пабачыў, што гало і вынесці з хаты няма чаго, дык драпануў да новай бабы. У даволі далёкую вёску. Тая жыла з маці і дачушкай. І як Мікіта, ну, напачатак, вёў сябе прыстойна. Але ці надоўга?.. Прывёз да яе і сваю дачку ён, але не глядзеў яе. Жонка Ліда высудзіла ад яго аліменты. Давялося плаціць, нікуды ты не падзенешся.

Дачку Ліда ўкрала яму.

Тая новая баба называлася Оляй. Калі Оля стала цяжарнай ад Мікіты, Мікіта тады ногі за плечы і хутчэй да першай жонкі, да той жа Ліды. А Лідзе хапала грошай усяго на дэнатурат, мужчыны, з якімі яна валялася ў пасцелі, плацілі таксама мала. Мікіта паглядзеў на ўсё гэта і давай шукаць якой бабы сабе, каб прысмактацца да дабрабыту. А як жа ж, знайшоў, гэтакага дабра ўсюды поўна, пайшоў жыць да Калатухі, перш жонку выгнаўшы з дзяцьмі, значыць Ліду, невядома куды і нашто... Ліда знайшла прытулак у Зялёнага Колькі. У яго Ліда цяжка захварэла і, людзі кажуць, доўга ўжо не пажыве: гарэлка паліць. А дурному Мікіце радасць: памрэ, аліментаў не трэба будзе ёй плаціць, зараблянь на іх. Хваліцца:

— І Калатуху кіну, лепшую бабу сабе знайду...

І гэтак ён жыве, а яна дажывае. А не старыя яшчэ яны.

**Аўрора**

## ПРАПАДАЕ ГІСТОРЫЯ Ў ПАДБЕЛЛІ

Трэба было абмераць царкву ў Падбеллі. Гэты аб'ект лічыцца помнікам гісторыі. Едзем туды ўтрох: інжынер Барыслаў Рудкоўскін, Дзімітры Вязоўскі і я; Дзімітры вязе нас сваім Опелем Рэкордам, з яго неблагі шафёр.

Каля падбельскай царквы налічылі мы сорак шэсць старадаўніх крыжоў, некаторыя з іх яшчэ з 1886 года. Сама царква была пабудаванай у 1849 годзе, паставіў яе Ілья Талызін. Адбываецца тут фэст штогод — на Ілью ў дзень патрона будаўніка царквы. Каля падбельскай царквы яшчэ адна асаблівасць — грабніца генерала Жаўтухіна, нешта накшталт фамілійнага маўзалеіка. Гэты аб'ект даволі знішчаны, знішчалі яго час і людзі, і няма каму заняцца аднаўленнем. Хоць мясцовыя людзі павінны быць удзячны памяці гэтага генерала. Справа ў тым, што калі б не ён, дык не было б у тым ваколлі чыгункі. Гэта ён дазволіў пракласці чыгунку па яго зямлі. Мог жа не дазволіць, меў такое права тады, і чыгунка праходзіла б далёка ад Падбелля, вельмі далёка.

Каля маўзалеіка стаяла калісьці таксама цэркаўка, ніхто ўжо не памятае, якая яна была. Адзіны след па ёй — гэта плоцік, якім абгароджана тое месца, і крыж там, дзе знаходзіўся прастол. А яшчэ ляжыць тут вялізны камень, але чаму і дзеля чаго ён, таксама ніхто не можа сказаць.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# ПЕРАД СКОКАМ НА КІЕЎ

Зімаванне на пераломе 1331/2 гадоў у Бярэсці правёў вялікі князь Гедымін не толькі на гойсанні па пушчах Пабужжа і Панароўя ў пагоні за зубрамі, турамі, дзікамі ці на падрыхтоўцы наступных паходаў, бо „много мевал воен, а завше выгрывал", — як падкрэслівае „Хроніка літоўская і жамойцкая". Паказаў ён сябе таксама вялікім майстрам у дыпламатыі. Разграміўшы валынцаў, забіўшы нейкага іхняга князя Уладзіміра, мабыць, „падручнага" князька, які быў на службе ў князя валынска-галіцкага Баляслава-Юрыя і здабыўшы горад Уладзімір-Валынскі, Гедымін справу вырашыў мірна. Замест у асобе Баляслава-Юрыя мець заўзятага ворага, які будзе дабівацца паловы сваіх уладанняў — заможнай Валыні, вялікі князь літоўскі вырашыў вярнуць здабычу князю галіцка-валынскаму разам з рукою... свае дачкі Яўфіміі. Пра такія казачныя падарункі Баляслаў-Юрый і сніць не сніў — вярнулася не толькі страчаная палова дзяржавы, але і прываліла сваяцтва з самым Гедымінам, сватаўством з якім ганарыўся нават польскі кароль Уладзіслаў! І такім чынам Гедымін абясшкоджваў ворага і прасціраў на Галіцка-Валынскую Русь свае ўплывы. Але вартая спачування, не зайздросная была доля яго дачкі, якую галіцка-валынскае баярства ненавідзела жывёльнай ненавісцю і пасля смерці мужа ўтапіла яе ў 1342 годзе ў Вісле каля Завіхоста. Страшны лёс дзіцяці, якое адказвае за ўчынкі бацькі...

Уладкаваўшы справы з Галіцка-Валынскай Руссю, Гедымін у тую ж „берасцейскую" зіму заняўся гаспадарчымі справамі. Вядома ж, што гэты вялікі князь не меней як пераможнымі паходамі са сваімі дружынамі ды разумнай дыпламатыяй, уславіўся гаспадарчай дзейнасцю. Яшчэ ў 1323 г. ён звярнуўся ў заходнееўрапейскія краіны і перш за ўсё ў прыбалтыйскія гарады, у тым і ў Шчэцін, з заклікам да рыцараў, сялян, купцоў, рамеснікаў, каб яны перасяляліся ў Вялікае княства Літоўскае. Абяцаў ім ахову і апеку: „Хутчэй жалеза абярнецца ў воск і вада ў сталь, чым я вазьму назад сваё слова", — кляўся вялікі князь у сваіх лістах. І прысягу стрымаў, бо прыбыўшых шчодра надзяліў зямлёй, на шмат год звальняў з данін, стварыў прыхільныя ўмовы для развіцця дзейнасці. І на выніку доўга не чакаў: у Вялікім княстве Літоўскім усё больш насельніцтва з далёкіх і суседніх краін шукала і знаходзіла пэўнае, сталае прыстанішча і гарантыю на памысную будучыню. Прыбывалі сюды людзі не толькі з далёкага Захаду, але і з блізкіх рускіх зямель, якія ўсё яшчэ гібелі ў татарскай няволі.

Няйнакш як за справай Гедыміна хутка падымаецца Бярэсце з заняпаду, у які яго ўпіхнула бясконцая ўзброеная калатня пад панаваннем валынскіх князёў. У сувязі з яўна варожымі адносінамі да Вялікага княства Літоўскага з боку Крыжацкага ордэна, Мазоўша і папярэднікаў Баляслава-Юрыя на княжацкім пасадзе ў Галіцка-Валынскай Русі, толькі яго граніца з саюзнай за панавання Лакетка Малапольшчай — ад крэпасці Ліў на аднаіменнай рацэ і да Владавы на Бузе — была адзіным прыязна адкрытым сухапутным акном у Заходнюю Еўропу. Якраз сюды кіраваліся галоўныя шляхі, якія ішлі па беларускіх землях з усходу на захад: з Полацка праз Гародню і Бельск; са Смаленска праз Наваградак, Ваўкавыск і Камянец; з Турава праз Піск — усе яны сцякаліся ў Бярэсці, Мельніку, Дарагічыне і адсюль накіроўваліся праз Люблін, Сандамір і Кракаў у Венгерскае і Чэшскае каралеў-

# ЯК УСЕ, ТАК І ТЫ ЗАЖЫВЕШ

Можна смела сказаць, што ў апошнія гады час у гміне Белавежа не стаяў на месцы. Шмат што зроблена тут для агульнай карысці. Агляд белавежскіх дасягненняў у гадах 1983-86 пачнем ад камунальнай гаспадаркі. Мадэрнізавалі нямала вуліц. Асфальтавалі Броўскую, Меляшкоўскую, Вайцяхоўку, Мастовую, Трапінку, Падлесную, Завулкі І і ІІ, Падаляны І і ІІ з працягам да скраю пушчы. Паклалі трохі асфальту на вуліцы ген. Вашкевіча і на пад'ездзе да могілак. Усяго даўжынёю каля шасці кіламетраў. Палепшылі стан іншых вуліц, нават масты папраўілі і тратуараў пабольшала да трох „з гакам" кіламетраў, разам лічачы, а таксама пабудавалі дажджавыя калектары, агульным працягам да паўтара кіламетра. Белавежскі вадаправод ужо доўгі на дзесяць кіламетраў, а ў бягучым годзе дойдзе ён да ўсіх вуліц і пасёлкаў, што на Белавежскай паляне. Вёскам, што ў глыбі пушчы, падрыхтавалі дакументацыю для аварыйных артэзіянскіх калодзежаў. Перспектывы на рэалізацыю таго ёсць ужо ў гэтым годзе. Зроблена нямала і драбнейшых справаў, як, напрыклад, наладзілі звалку смецця каля Броўскай дарогі.

У ваяводскі план уведзена пабудова гміннага ачышчальніка сцёкаў. Уступныя работы будуць распачаты яшчэ сёлета, недзе ў другой палове года. Пабудаваны пажарныя вадасховішчы ў Будах і на вуліцы В. Габец у Белавежы; пачаты — у Крыжах, Падалянах, Тэраміскax. Зроблена асвятленне стаянкі аўтамабіляў і таксі каля вакзала Белавежа-Палац, праведзен рамонт сістэмы асвятлення шэрагу вуліц, асабліва каля небяспечных скрыжаванняў. Закончан першы этап пабудовы другой энергетычнай лініі з Гайнаўкі ў Белавежу (24 км). Усяго, зрэшты, і не пералічыць, хаця б аб'ектаў, так званай, малой архітэктуры, усякіх інфармацыйных дошак, лавак з падстрэшкамі, вітрын.

Пабудован паўстанак ПКП (чыгункі) у Грудках. Перабудавана дарогі з Чарлёнкі ў Буды, шэсць з паловаю кіламетраў, і далей, цераз Тэраміскі, Пагарэльцы, у самую Белавежу, гэта значыць, яшчэ дзесяць з паловаю кіламетраў, усюды дадзен асфальт. Здадзены ў карыстанне дзве аўтобусныя лініі, такім чынам вырашана праблема камунікацыі на тэрыторыі гміны і прывозу дзяцей у школы, а працаўнікоў ва ўстановы і фірмы. У ваколіцах Пагарэльцаў, Падалянаў і Заставы са Стачком праведзены рамонт каля пяці кіламетраў палявых дарог. Пастаўлены новыя або адноўлены дарожныя знакі, указальнікі. Ужо працуе ў Белавежы аўтаматычная тэлефонная станцыя, палепшана лінія, а лік тэлефонаў падвоіўся. Апрацавана дакументацыя, на падставе якой будуць, так сказаць, тэлефанізаваны ўсе вёскі, і тыя, што далёка ў пушчы.



Сыйшліся людзі на ўрачыстае адкрыццё аўтобуснай лініі, дзякуючы якой жыць зручней будзе. Фатаграфаваў Артур Дамашэвіч.

Гандаль і паслугі ў нашым наваколлі таксама не занядбаныя. Пабудаваны завод газаваных напіткаў і разлівачная піва. Маем дзве новыя крамы — у Будах і Пагарэльцах. За сорак мільёнаў злотых перабудавалі каўбасную, пашырылі і перабудавалі рэстаран „Зуброўка", у якім ёсць цяпер і бар, і кавярня і гасцініца. Ёсць, нарэшце, добрая цырульня на месцы, куды прыемна пайсці пастрыгчыся.

Не пакінуты ў крыўдзе і ўстановы асветы ды выхавання. Дзіцячы сад, які гарэў, цяпер пашырылі і зрабілі яшчэ лепшым, чым быў. У ім тры аддзелы, як нібы класы. Упарадкавалі пляц вакол яго і збудавалі чатыры кватэры для выхавацеляў. Пачаўся першы этап разбудоўвання ды мадэрнізацыі пачатковай школы; старыя школьныя будынкі адрамантавалі.

Не пакінуты ў забыцці і патрэбы культурнай дзейнасці. У Пагарэльцах паявіўся Клуб селяніна з бібліятэчным пунктам. Шмат новага купілі ў падобны клуб, што ў Тэраміскax. Пашыран клуб у Будах, зрабілі там акуратную агароджу. Такія ж намеры памалу рэалізуюцца і ў Падалянах. У адным канцы адрамантаванай пажарнай рамізы знайшла прытулак гмінная бібліятэка, памяшканне якой знаходзіцца якраз у рамонце. У Гмінным асяродку культуры арганізаваліся фатаграфічная майстэрня і лялечны тэатр. Віdаць і зачаткі карціннай галерэі, што вельмі добра сведчыць пра ўзровень культурнай дзейнасці ў Белавежы.

Нямала зроблена і для развіцця спорту і турызму. Між іншым, адрамантаваны вядомыя аб'екты ў Старой Белавежы, Гайдуках і каля Пагарэльцаў. Мадэрнізавана палаткавая паляна ў Грудках, наладжана таксама добрая чыстая крыніца там і дадзена адпаведнае асвятленне. Экскурсаводы намецілі і арганізавалі новы турысцкі шлях, „Каралеўскія дубы". Гэта ў Старой Белавежы. А дзеячы турыстычнага таварыства наладзілі шлях „Народнай памяці" ў раёне Белавежскай пушчы. Мае гэта сувязь з пакутамі насельніцтва ў апошнюю вайну. Ужо адчынены гасцінны дом Польскага турысцка-краязнаўчага таварыства. У ім шэсцьдзесят месц для начлегу. Закончыўся першы этап перабудовы нашага стадыёна. Другі такі стадыён будзе пабудаваны каля Лясного тэхнікума. Узнавіў дзейнасць спартыўны клуб „Зубр".

У 1988 годзе будзе здадзены ў карыстанне ў Белавежы Дзяржаўны дом грамадскай апекі.

У белавежскіх сялян пабольшала быдла, авечак, свойскай птушкі і пчолаў. У іх цяпер 66 трактароў, 10 снопавязалак, 19 механічных і 96 конных бульбакапалак, 7 малатарняў, 5 раскідвальнікаў гною, 101 конных касілак, 19 сеялак.

Белавежцы не чакаюць дарэмшчыны. Самі дапамагаюць у рэалізацыі задуманых уладамі планаў паляпшэння быту і гаспадаркі гміны. На працягу 1983-86 гадоў выканалі яны ў грамадскім пачыне работ на суму больш за шаснаццаць мільёнаў злотых.

Трэба пахваліць і начальства — калісьці хвалілі іх спачатку, цяпер жа пад канец хваляць — такі новы звычай, бо і што даў бы рады начальнік без падтрымкі народу. Энергічныя ў нас і начальнік гміны Яўген Паўлючук, і старшыня Гміннай рады Аляксей Семянюк. Яны не спяць у шапку, у іх добрая амбіцыя, каб усім белавежцам жылося добра і штораз лепей, бо лёс кожнага залежыць ад лёсу ўсіх.

**Пётр Байко**

ствы, або праз Радам у Вялікапольшчу і цераз Каліш, Вроцлаў ці Пазнань — у Нямеччыну. Таксама і для заходнееўрапейскіх краін Бярэсце і суседнія з ім гарады становіцца „прыстанню і варотамі ў літоўскія (г. зн. беларускія — М.Г.) і рускія землі", — як сцвярджае польскі храніст Ян Длугаш. Берасцейшчыну і Дарагіччыну ўслаўлялі вырабы іхніх рамеснікаў. Гэтыя землі багацеюць на гандлі, разрастаюцца гарады: Дарагічын, Мельнік, Бельск, Сураж.



Разгром Уладзіславам Лакеткам у апошніх днях верасня 1331 г. значных крыжацкіх атрадаў пад Плоўцамі выклікаў у адказ удар крыжакаў на Польшчу навесну наступнага года, калі яны кінулі ўсе свае сілы, каб захапіць Куявы. У тым часе на страшэнна доўгай граніцы Вялікага княства Літоўскага з Крыжацкім ордэнам запанавала хвіліннае зацішша.

Гедымін дасканала разумеў, што крыжакі не спачнуць, пакуль не скораць сваіх суседзяў, перш за ўсё як не захопяць Вялікага княства Літоўскага. Вялікі князь намагаўся выйграць час і як мага лепш узмоцніць дзяржаву да гэтай смяротнай схваткі. Адзіную апору ён і яго папярэднікі здаўна бачыў у стварэнні багатага чалавечымі і матэрыяльнымі рэсурсамі заплечча, тылаў. Такое было магчыма толькі шляхам далучэння да Вялікага княства Літоўскага зямель Усходняй Славяншчыны, якія дагэтуль знаходзіліся пад уладай татарскіх ханаў. Гэтыя імкненні вялікіх князёў сустракаліся з прыхільнасцю ў прыгнечанага татарскай няволяй простага люду, які ў іх асобе і дзяржаве бачыў збаўцу ад жудасцей панавання ханаў, ханскіх прыслужнікаў і падпарадкаваных „ханскай волі" мясцовых князёў. Але прыхільнасць простага люду яшчэ не вырашала справы, бо татарскі хан валодаў аграмаднай арміяй вайскоўцаў, службоўцаў, прыхільнікаў.

Такім чынам паступова на Вялікае княства Літоўскае ход гістарычных падзей ускладаў адказныя заданні не толькі абароны Усходняй Славяншчыны ад крыжацкай навалы, але таксама не менш цяжкую ролю вызваліцеля з татарскай няволі і „збіральніка" паўднёвых і ўсходніх яе зямель.

Як вырашаў гэтую справу Гедымін? Пра тое ў наступным адрэзку.

**Мікола Гайдук**
Мал. У. Петрука

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### УЯЎЛЕННІ АБ СМЕРЦІ

Да ўжо прыведзеных выказванняў Анны і Іосіфа Буйко аб раі і пекле прагну дадаць выказванне іх сына, Аляксандра, які нарадзіўся каля 1910 года. Сімптомнасць гэтага выказвання заключаецца ў тым, што ў ім праяўляецца іншы, чым у бацькоў, погляд на „грамадска-класавы“ характар парадкаў, пануючых у небе і ў пекле. Аляксандр Буйко моцна падкрэсліваў сваю рэлігійнасць і веру ў існаванне раю, пекла, страшнага суда, несмяротнасці душы і г.д. Пры гэтым, аднак, адкідаў ён перакананне сваіх бацькоў аб тым, што рай і пекла збудаваны па ўзору паншчыннай сістэмы. Рэаліі гэтай сістэмы для чалавека, народжанага на пачатку дваццатага стагоддзя станавіліся чымсьці моцна адлеглым, амаль казачным і таму ў яго свядомасці не пераносіцца на замагільныя парадкі. Вось фрагмент выказвання Аляксандра Буйко:

„Ты ні слухай того, што тут табе нагаварылі старые. І запісваці гэтого ні трэбо было. Ваны ўсё да паншчыны цягнут, ну бо вадомо, наслухаліся пра яе дзецьмі будучы. А жэ ж вадомо, што паншчына ні была на землі вечно, а небо, рай, пекло былі вечны. І цар на землі ні быў вечны, а зрэштаю ў многіх землях цароў ні было, а толькі каралі або якіясьціка там мікады або шахі. То чаму ж гэто ў небі Бог за цара, а ні за якогасьціка там мікаду або шаха?

У небі, ну або ў раеві, чы ў пеклі, то е так, як сказано ў святых ксёнжках. У небі і раеві то німа ніякіх цароў, ні паноў, ні эканомаў, ні мужыкоў. Ну можэ я сказаў ні так, як трэбо. Могут быць і цары, і паны і эканомы, калі ваны былі тут на землі парадачнымі людзьмі, але ў раеві то ваны ўжэ ні пануют, там ваны роўны з найпрацейшымі мужыкамі. І тое самэ е з пеклом. Там забрана разна нечысць і ўсероўно, чы ты там цар, чы пан, чы поп, чы мужык. Раз ты быў свіня і ўрэдны на землі, то мусіш адзінаково адпакутваці ў пеклі за свае грахі. А з рэштаю, што тут много староваці. У святых ксёнжках усё гэто сказано і калі ўсё дакладно хочэш ведаці, то трэбо ў іх загледаці, а ні слухаць таго, што плетут старые“.

Істотныя разыходжанні выступаюць таксама ў народных уяўленнях аб смерці. Найстарэйшыя інфарматары, асабліва жанчыны, вераць, што смерць паяўляецца перад уміраючым у асобе белай жанчыны або страшнай бабы з касою. Аднак аграмадная большасць уважае, што смерць не мае ніякай формы і не ўвасабляецца ў чалавечую асобу. Усе групы інфарматараў згодны ў адным: лічаць яны смерць з'явай выключна справядлівай, якая аднолькава трактуе людзей розных класаў, расаў і рэлігіяў.

„Што як што, — гаворыць Марыя Палех з вёскі Круглы Лясок, — але на гэтым свеце толькі адна смерць справедліва. І цары, і паны, і ўжэндікі, і суддзі, і папы, і ксяндзы — усе бывают несправядлівы і могут за грошы зрабіць найгоршую крыўду. Але смерць то нічым ні падкупіш і ні ашукаеш. Многія багачы ні шкадавалі б грошай, каб жыць вечно, але гэто ешчэ нікому ні ўдалося і ні ўдасца. Прыходзіт твой час — і трэба памерці. Ну, ты пытаеш, якая гэта смерць? Колісьціка то ўсе верылі, што яна то такая пані ў белым або страшна баба з касою. Колісьціка то і я верыла, што яна такая. А сегодне то я ўжэ і сама ні ведаю. Але мне, бачыш, ужэ нідоўго трэбо ждаці, бо маю восемдзесят лет, то ўжэ хутко яе пабачу. Можэ табе гэто здаецца смешно, бо ты ведаеш, што я ўжэ пару лет слепая, то як я тую смерць угледжу. Але смерць кажды пабачыт і я таксамо. Ну, ты пытаеш, хто смерць пасылае на людзей? Ведаю хто. Смерць паслушна толькі Богаві, больш яна нікого ні слухае“.

**А. Баршчэўскі**

### МОЙ ДЗЕД ЕЎ СТРАВУ

Мой дзед не любіў сухой ежы. Ён і рана, і вечарам (бо хто там тады еў абед?) хацеў с т р а в ы, значыць рэдкага, цяпер кажам — супу. Калі бабуля падавала бульбу, ён прасіў: „Мо якеі стравы дала б“.

І страву часта рабілі хутка і проста: крышылі хлеб, найчасцей засохлы, залівалі кіпетнем, сыпалі соль, перац, калі быў крышылі цыбулю і крыху акрашвалі смажанай саланінай або алеем. Смаката! У падпушчанскіх вёсках і хутарах, адкуль родам мая мама і я, называлі гэтую страву „быкус“.

У Крывой і ўвогуле на Бельшчыне гэтую страву называлі „каплун“.

Аднойчы маю маму прыйшла наведаць яе знаёмая з Гнецюкоў, цяпер гміна Заблудаў. Не было чым пачаставаць госця і мама мне загадала: „Зрабі быкусу“. Цётка Насця, убачыўшы страву сказала: „О, добра, добра, б а р м у ш к у зрабілі“. Яна ела гэтую „бармушку“ з цукрам, не з тлушчам. Можна і з цукрам, таксама смачна.

Цікава, што маладыя людзі, якім па 30 гадоў, ужо не ведаюць гэтых назваў — яны не елі такой стравы. Няхай шкадуюць.

*

Было і такое здарэнне ў мяне. Адзін чужынец з-за заходняй граніцы шукаў усяго беларускага. Трапіў ён да майго дзядзькі. А ў дзядзькі якраз — ні трэсні, ні лусні. Жыве сам, не купіў гатовага. Але ў склепе ляжала паvялая бульба, у гародчыку вырасла маладая зялёная цыбулька, а недзе ў шкафчыку, у парваным мяшочку валяліся ячныя крупы.

Я купіла літр малака і на ім зварыла рэдкі крупнік. Бульбу стаўкла на таўканіцу. На вялікую талерку наклала госцю горбу тае таўканіцы і пасыпала зялёнай цыбуляй, а ў другую талерку наліла малочнага крупніку. Дзядзькаў госць, як заўсёды спытаў: „То беларуская ежа?“ „Беларуская“, — адказала я.

Але мой дзядзька раптам ажыў: „Так, так, то старынная беларуская ежа. Я ўспомніў — мама мая часта так варыла. Бач, ты ўмееш варыць па-колішняму, — звярнуўся да мяне. — Цяпер я буду часта так сам варыць“.

Мы ўтраіх з'елі сямілітровую каструлю таўканіцы, захліставаючы крупнікам. І елі б яшчэ, каб было.

*

А возьмем такое слова-назву: „м у з ы к і“. Толькі так называлася калісьці гэтае на радзіме маёй мамы. Мама, успамінаючы маладосць, шкадуе, што „на музыкі я бегала, пакуль дзядзька Мусей не прачытаў з Евангелля, што Ірад праз тыя танцы адрубаў Іаану Хрысціцелю галаву. Пасля гэтага я адразу не пайшла на тыя страшныя музыкі“.

У іншых месцах, і ў іншых часах гаварылі: танцы, вечарыны, гульні, забава (ужо пасляваеннае слова ў нашых вёсках), а цяпер выступае д ы с к а т э к а, — бязвобразнае, сухое слова, чужаземнае, але моднае. Што ж зробіш?

**Вера Леўчук**




### МАРКОЎНАЯ БАБКА

У нацёртую маркоўную масу дабавіць разведзеныя ў вадзе дрожджы, яйкі, соль, муку, цукар, масла, перамяшаць і паставіць у цёплае месца для браджэння. Затым перакласці ў металічную форму, змазаную маслам, і паставіць у печ ці духоўку на 20 мінут.

500-600 грамаў морквы, 1-2 сталовыя лыжкі мукі, 30-40 грамаў масла, 1-2 яйкі, 10-12 грамаў дражджэй, соль.

### ЛЯКАРСТВА

Рак... Жахлівая хвароба. Ратунку ад яго шукаюць многія тысячы вучоных на ўсім свеце. Паступова, крок за крокам, раскрываюць яе таямніцы і сцвярджаюць, што гэтае страшэннае захворанне мае больш за тысячу разнавіднасцей і кожная разнавіднасць патрабуе іншага лячэння. Навука знаходзіць усё больш і ўсё лепшыя сродкі на розныя формы ракавых захворванняў.

Звычайныя людзі — сяляне, леснікі, рыбакі, пчаляры і другія — таксама спрабуюць шукаць натуральныя лякарствы на тыя ці іншыя формы рака. Яны пільна прыглядаюцца да прыроды, розных з'яў у ёй. І самыя ўдумлівыя і дапытлівыя знаходзяць сродкі ад гэтага захворвання.

Нядаўна нашу рэдакцыю наведаў селянін Аляксандр Буйко з вёскі Тарнопаль, гміна Нараўка, Беластоцкага ваяводства і расказаў нам, што ён знайшоў расліну, настойка з якой выдатна дапамагла яму вылечыць рак скуры (на губе). Пасля яго выздараўлення такою ж настойкай прымочвалі ракавыя нарасці на скуры іншыя асобы і ім таксама дапамагло гэтае лякарства — цела цалкам выгаілася.

Гэтая настойка дапамагае вылечыць выключна толькі ракавае захворванне скуры, у іншых разнавіднасцях рака яна непрыгодная. Яна лечыць таксама рэўматызм.

Што ж, многа яшчэ нязведаных таямніц у нашай прыродзе.

**(мг)**

## Афарызмы

Пасля атамнай катастрофы не будзе каму прапаведаваць Добрую Навіну.

*

Рэлігіі не яднаюць чалавецтва, а падзяляюць яго.

*

Нацыянальная нянавісць мацнейшая, чым рэлігійныя сувязі між народамі.

**Рышард Бутайла**




69

**Мікраскоп** — не будзь хітрым.
**Міласціна** — даваць яе — клопаты ў тваіх справах; атрымаць — атрымаеш новую пасаду, пяройдзеш на іншую гаспадарку.
**Міласэрнасць** для іншых — шчасце.
**Міліцыя** — засмучанні, клопаты.
**Міля** (слуп) — недалёкае падарожжа.
**Мімоза** — чуллівасць на пакуты.
**Міна** разрываецца — вялікае няшчасце.
**Міндаль** (мігдал) есці — твая прагавітасць табе пашкодзіць; міндальнае дрэва цвіце — тваё звычанне збудзецца.
**Міністр** — кароткае шчасце.
**Мірт** — прызнанне ў каханні; прыемныя хвіліны; вянок — хуткі шлюб; віць яго — запрашэнне на вяселле.
**Міска** вялікая, таз — з бруднай вадой — засмучанне, хатнія клопаты; медная — вернасць; мыцца — выканаеш свае абавязацельства; фарфоравая — верныя падначаленыя; міска для ежы: парожняя — нястачы, поўная — дабрабыт; гліняная — скромнае жыццё, купляць — клопаты; пабіць — сварка.
**Мітра** — вельмі прыемны адпачынак; свяшчэннік у мітры — будзеш плаціць за пахаванне.
**Міфалогія** — усе міфалагічныя асобы — гэта благія прадказанні.
**Млечны Шлях** — спакойная і шчаслівая будучыня.
**Млын** — меле — шчасце і багацце; млынавае кола — хуткі заробак; трапіць пад яго — небяспека, скрытнасць.
**Млынок** да кавы — пажаданыя госці.
**Модніца** — непатрэбныя выдаткі.
**Мозг** — перамога над праціўнікамі; есці — прыемнае жыццё.
**Молат** — доўгачаканы дазвол на шлюб; сваёй настойлівасцю, сілай волі даб'ешся свайго.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



„Май — заганяй валы ў гай, а сам на печ уцякай!“ Так гаворыць пра веснавы месяц май вельмі старая прымаўка. І гэта праўда.

На двары вясна, май, але нам і нашым лялькам бывае халаднавата — кажуць дзеткі з Старога Ляўкова, якія гурбою выбраліся пагуляць.

Фота Я. Целушэцкага

Веснавым днём вучні шостага класа разам з настаўніцай прыроды пайшлі ў лес. Настаўніца хацела расказаць і паказаць вучням, як прырода адраджаецца.

Лес прывітаў дзяцей цішынёй. Сям-там можна было ўбачыць пралескі.

— Паглядзіце, дзеці, — ціха пачала гаварыць настаўніца, — як хораша цвітуць пралескі, быццам кавалак блакітнага неба ўпаў на зямлю.

— А вось там! Паглядзіце, паглядзіце, — раптам крыкнуў Міша. — Там на дрэве вавёрка!

— Якая прыгожая! — пачалі захапляцца дзяўчынкі.

— Цішэй, цішэй, — супакойвала вучняў настаўніца.

Роберт пачаў чагосьці шукаць у кішэнях.

— Ёсць, — крыкнуў ён. — Каменнем у яе, каменнем!

І нечакана для ўсіх шпурнуў каменем у вавёрку. Акрываўлены звярок упаў на зямлю.

— Што, што ты зрабіў, хуліган, — сурова крыкнула настаўніца.

Дзяўчынкі падбеглі да вавёркі. Паглядзелі, засумавалі...

— Канец, не будзе жыць вавёрачка, — глытаючы слёзы сказала Мірка.

— Так, — згадзілася Марыля, — у галаву трапіў, мозг вылез.

Усе паглядзелі на Роберта з дакорам. А ён усміхнуўся і прабаваў нават жартаваць:

— Вось стрэл! Нічога сабе, праўда? Ха-ха-ха!

— Чаго смяешся? — адазвалася настаўніца. — Што забіў безданаможную істоту? Ну, чаго маўчыш? Адкажы!

— Я толькі пажартаваць хацеў, — пачаў тлумачыцца Роберт.

— Ну, і жарты прыдумаў! — абурылася Мілена, з якой Роберт дружыў. — Гэта не па-гарцэрску і не па-чалавечаму.

— А яшчэ найлепшы вучань і член школьнага гуртка лігі аховы прыроды, — крывячыся сказаў Міша.

Другія з-пад ілба глядзелі на злачынцу.

— Вось які ты, Роберт, — зноў адазвалася Мілена, — эх, — махнула рукой.

— Падумаеш, сяброўка, — не здаваўся Роберт.

— Я табе ўжо не сяброўка. Знаць цябе не хачу, — сказала Мілена.




— Давайце, дзеці, — сумна адазвалася настаўніца, — выграбем ямку і закапаем вавёрку.

— Навошта закопваць у зямлю? Я вазьму яе дадому. Мой бацька вырабіць і паставім яе ў прыродазнаўчым кабінеце. Будзе як жывая — папрасіў у настаўніцы Юлік.

— Няхай і так будзе, — хвіліну падумаўшы сказала настаўніца. А табе, Роберт, пастаўлю двойку па прыродзе. І выступіш на школьным апэлі і перад усёй школай раскажаш пра свой учынак. Я, як апекун школьнага гуртка аховы прыроды, выкраслю цябе з нашага гуртка. Ну, дзеці, — звярнулася да ўсіх, — пара вяртацца ў школу.

Назад ішлі ўсе сумныя. Маленькімі групкамі. Са звешанымі галовамі. Роберт ішоў сам. Дзе і падзелася нядаўняя яго весялосць і самаўпэўненасць? Пасля кароткага часу падняў ён галаву і тады ўбачыў акрываўленую вавёрку ў руках Юліка і ўнутры яго пахаладнела. „Чаму я такое зрабіў? — думаў. — Калі быў меншы, то раскідваў ластаўчыны гнёзды. Душыў каццяняты і шчанюкоў жывымі закопваў. Падрос — перастаў быў. А цяпер зноў... Праўду гаварыла настаўніца і ўсе вучні. Цяпер сорам. Што скажа рыжы Юрка з сёмага класа? Балотам абкідае. А бабуля? Яна мне заўсёды гаварыла: памятай, унучак, хто дрэў і звяроў не любіць, той і людзей не шануе. Што яна мне цяпер скажа?“

Раптам нечакана для самога сябе Роберт крыкнуў:

— Прабачце мне! Больш гэта не паўторыцца!

— Прабачыць? — скрывілася Мілена.

— Так нельга, — адазвалася настаўніца. — Адзін раней апамятаецца, другі пазней, а трэці — увогуле. Думаю, што Роберт сапраўды больш так рабіць не будзе. Але заслужаную кару панясе. Будзе так, як я сказала. Згода, Роберт? — спыталася, усміхнуўшыся.

Ад гэтай усмешкі настаўніцы Роберту зрабілася лягчэй. Ён толькі думаў цяпер аб адным: як выступіць на школьным апэлі і расказаць усю праўду перад школай, ацаніць свой учынак. Можа тады Мілена зноў захоча сябраваць з ім.

Іра Салавей

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Авяр'ян Дзяружынскі

### БЕРАСЦЯНКА

Распявае
Песні ўранку
Ў лесе
Птушка-берасцянка.
— Цілі-воз,
Цілі-воз,
Кідай сані,
Бяры воз...
Кідай сані,
Бяры воз,
Цёпла стала,
Знік мароз.



### ШПАКІ

Пазляталіся
Хрушчы
І гулі
Аж да начы,
На бярозку
Селі,
Шмат лісточкаў
З'елі.
Горайка
Ў бярозкі,
Паліліся
Слёзкі:
— Птушкі,
Птушкі,
Памажыце —
Прэч
Хутчэй
Хрушчоў ганіце!
Прыляцелі
Шпакі,
Дружна селі
На сукі,
І хрушчоў
Патрушчылі,
І хрушчоў
Палушчылі.
Не ліюцца
Слёзкі
Болей
У бярозкі.



Станіслаў Шушкевіч

### З ВЫРАЮ

Птушкі ў небе заспявалі,
Заспявалі хорам:
— Ой, далёка мы бывалі,
Аж за сінім морам.
Мы ляцелі над пустыняй
Чарадою скарай,
Над ракою цёмна-сіняй,
Над зялёным борам.

Мы ляцелі па-над стэпам,
У сініх аблоках,
Там былі, дзе вечна лета,
Ад зімы далёка.

Ой, хутчэй нясіце, крылы,
Праз аблокі, хмары.
У куток наш вечна мілы,
Ў родныя абшары.

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## ВЯЛІКІ БЕЛАРУСКІ ПАЭТ

Праўдзівае прозвішча Янкі Купалы (1882-1942) — Іван Дамінікавіч Луцэвіч. Нарадзіўся ён у фальварку Вязынка каля Маладзечна ў сям'і дробнага арандатара. Частыя пераезды бацькоў і беднасць не дазвалялі яму рэгулярна вучыцца ў школе. Пасля заканчэння пачатковай школы Купала спачатку працуе з бацькамі на гаспадарцы, а потым рабочым у бровары. Але і ў такіх цяжкіх умовах ён не пакідае вучобы, многа чытае, самастойна вывучае розныя прадметы па падручніках для самавукаў. Потым займаецца на курсах у Пецярбурзе, і ў народным універсітэце ў Маскве. Вылучыўшы вольную хвіліну, піша вершы. Калі выходзіла ў 1906-1915 гадах у Вільні беларуская газета „Наша ніва", Янка Купала доўгія гады быў яе карэспандэнтам, а затым рэдактарам. Толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Купала меў магчымасць палкам прысвяціць сябе літаратурнай творчасці.

Янка Купала пісаў вершы і байкі, паэмы і драматычныя творы, сярод іх самыя выдатныя: паэмы „Курган", „Бандароўна", „Адвечная песня"; драма „Раскіданае гняздо", камедыя „Паўлінка". Вялікія перамены, якія наступілі ў жыцці беларускага народа за Савецкай улады, паэт адлюстраваў у паэме „Над ракой Арэсай" і шматлікіх вершах.

У 1939 годзе Янка Купала прыязджаў у Беласток і выступаў з чытаннем вершаў у драматычным тэатры.



**ЗА СВАБОДУ СВАЮ...**

За свабоду сваю
Ўсёй душой пастаю:
У агонь, у ваду
Я за ёю пайду.

Лепей сам сябе дам
Пахаваці людзям,
Як свабоду хаваць,
Злыбядзе аддаваць.

Ў сэрцы, ў думках сваіх
З самых лет маладых
Я яе ўзгадаваў
І сваёю назваў...

Гэй ты, гэй, вецер, пей
А свабодзе маей!
Гэй ты, гэй, бор, шумі,
Аб свабодзе грымі!

Гэй ты, сонца, гары
Ад зары да зары,
Ланцугі распалі
Па ўсёй чыста зямлі!

*1. Раскажыце пра вучобу Янкі Купалы.*

*2. Назавіце самыя выдатныя творы паэта.*

*3. Прыпомніце, якія вершы Купалы вы чыталі ў папярэдніх класах і ў пятым класе. Аб чым у іх гаворыць паэт?*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 163019, г. Архангельск-19, ул. Приморская, 5, кв. 8. Никитенко Юле, 11 год.

* * *

СССР,163061, г. Архангельск, пр. Новгородский, 164, кв. 74. Четверикову Валерию, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 80, кв. 49. Дзіна Трус, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 75/12, кв. 16. Марына Сталярэнка, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 94, кв. 58. Каця Свірыдовіч, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 10, кв. 23. Саша Кунавіч, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 21, кв. 41. Саша Латушкін, 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 49, кв. 49. Саша Рыжоўскі, 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 34, кв. 38. Саша Масюкевіч, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90, кв. 95. Сяргей Новікаў, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 71, кв. 12. Сяргей Мукасей, 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 148, кв. 17. Саша Дзейкала, 6 клас.

*Уладзімір Арлоў*

## ЧАТЫРЫ СЯСТРЫЧКІ

На зямлі жывуць сястрычкі,
У іх да зямлі касічкі.



**Вось зялёная касічка —**
**Гэта першая сястрычка.**
**Арэ, сее, палівае,**
**Вочкі ночкам адкрывае.**



**Каляровая касічка —**
**Загарэлая сястрычка.**
**І яна працуе ўмела,**
**Каб усё расло і спела.**



**Залацістая касічка —**
**Гэта рыжая сястрычка.**
**Прыбірае, вее, косіць**
**Ураджай у свірны носіць.**



**А чацвертая касічка —**
**Беласнежная сястрычка.**
**Усё сабраць з палёў паспела,**
**Ўсё накрыла коўдрай белай.**

**Працавітыя сястрычкі,**
**Хоць розныя у іх касічкі.**

**Пераклад з рускай мовы**

## ЧАМУ ВОЎК ПАЧАЎ ВУЧЫЦЦА?

Даўней Галадоўскі лес быў намнога большы чым цяпер. Сягаў аж да Відава. І ў тым лесе жыў Воўк. Стары быў і слабы. Хадзіў памалу і думаў памалу. Часта прыходзіў у самае Відава. Людзі тут жылі добрыя, спачувальныя. Яны памагалі Ваўку, чым маглі, але і самі незамнога мелі. Асабліва мяса не многа елі людзі ў тыя старыя часы.

Выбраўся Воўк аднойчы далей ад людзей, зайшоў у царства Лісы. Ідзе ён там лесам і бачыць — сядзіць Рыжая і смакавіта есць курыцу, якую нядаўна ўкрала слепаватай Мітрафанісе. Ваўку аж у грудзях запякло ад голаду. Ён сказаў:

— Рыжая, я цябе з'ем. А хітрая Ліса хвіліну памаўчаўшы, адказала:

— Пачакай крыху, я табе сваю песніцу заспяваю.

І заспявала. А такім мяккім, мілым галаскам, што Воўк заслухаўся і заснуў. Тады Ліса — шмыг — і ўцякла ў нару разам з курыцай.

Калі Воўк прачнуўся, ужо нікога і нічога не ўбачыў. Пайшоў далей. Ішоў, ішоў, урэшце выйшаў з лесу — каля Галадоў. Бачыць — Кабыла скубе траву. Падыходзіць ён і кажаголасна:

— Я цябе з'ем!

Кабыла спужалася і гаворыць:

— Не можаш мяне есці.

— Чаму — пытаецца Воўк.

— О, прачытай, чаму — і падняла нагу.

Воўк падышоў бліжэй і зазірнуў Кабыле пад нагу. А яна тады капытом як не дасць яму, што аж іскры пасыпаліся з вачэй.

Калі Воўк прыйшоў да прытомнасці, сеў і задумаўся.

— Чаго я такі дурны, трэба мне змяніць маю добрую воўчую натуру, інакш я з голаду памру. Усё гэта ў мяне ад таго, што я невучоны. Чытаць, пісаць не ўмею, таму кожны лёгка можа мяне перахітрыць. Вывучуся, тады буду моцны і іншыя пачнуць мяне баяцца.

І пайшоў Воўк у школу ў далёкую Пушчу навуку здабываць.

**Апр. А. Гаўрылюк**




Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## РУЖЫ

Дадому не ішоў, а нібы ляцеў на крылах: у кішэні ляжала прэмія за рацпрапанову, а ў руках радаваў вока і душу прыгожы букет чырвоных ружаў. Не лічачыся з часам, абышоў увесь рынак, пакуль падабраў кветачку да кветачкі.

Перад вачамі міжволі мроіўся малюнак: ціхенька адчыняю дзверы, урачыста працягваю ёй кветкі, потым аддаю прэмію. Яна пяшчотна абдымае мяне. Чорныя гарэзлівыя вочы струменяцца добразычлівасцю, на твары ўдзячнасць і замілаванне:

— Архіпка, даражэнькі! Мае любімыя кветкі! Вось не чакала. Нібы ў юнацтва вярнулася. І ружы!.. Чырвоныя ружы! Дзе ты іх толькі здабыў?..

Вось і дом. Ад яўнай сустрэчы з ёю сэрца забілася мацней, затрапятала, нібы ў таго вераб'я. Такога са мною даўно не было. Ад хвалявання ледзь патрапіў ключом у замочную адтуліну.

— Набраўся ўжо? Замка не можаш адамкнуць, як усе добрыя людзі! — падступілася яна да мяне. У руках трымала анучу, якой толькі што выцірала падлогу. — Грошы атрымаў?

— Прэмію... Кветкі вось...

— Усё зразумела. Букецікам хочаш адмахнуцца?!

— Я ад усяго сэрца...

— Зубы не загаворвай. Астатнія грошы на стол, — і да апошняй капейкі! А зараз марш па ваду! — скамандавала, калі я выклаў перад ёй на стале сваю прэмію.

Я, нібы апантаны, кінуўся да калодзежа. Пышныя, прыгожыя ружы засталіся сіратліва ляжаць на падаконніку.

**Васіль Касцян**



# НІЎКА




### НЕДАВЕР

Прыходзіць да псіхіятра пані Задрыпкоўская і скардзіцца:

— Пане доктар, мой муж хваравіта недаверлівы.

— У чым гэта праяўляецца?

— Глядзіць па тэлевізару футбольны матч, і калі забіваюць гол, ён пасылае сына да суседзяў, каб той спытаў, ці ў іх таксама быў гэты гол...

### НЕ ДАРАВАЎ БЫ...

Муж кажа жонцы:

— Наш сусед, Астап, зусім дурны. Яго жонка Матруна пры людзях абазвала дурнем, а ён змаўчаў. Калі б ты мяне так, я б...

— І што б ты зрабіў, дурань ты дурны? — запытала жонка.

— Я б ёй... — прамармытаў муж і прыкусіў язык.

### НЯРОЎНЫЯ СІЛЫ

— Чаму ты не змагаешся са сваімі недахопамі? — пытае сябар Кастуся.

— Дык сілы ж няроўныя, — адказвае Кастусь. — Я — адзін, а іх — вунь колькі!

### ХТО ДАЦЯГНЕ

— Да дна, куме, да дна яе, праклятую, цягні!

— Я дык дацягну, а хто ж тады мяне дацягне на той канец сяла?





Часам вельмі хочацца быць прыгожым, але ўспамінаеш, што ўжо жанаты.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Шатландзец галіўся і парэзаўся. Кінуў брытву і пабег да тэлефона:

— Алo! Гэта бальніца? Скажыце, калі ласка, колькі вы плаціце за кроў?

*

У правінцыяльным горадку турыст пытаецца ў мясцовага жыхара:

— Дзе тут у вас можна найлепш паесці?

— У рэстаране „Пад залатым сонцам"...

— Вы яго пастаянны наведвальнік?

— Не, уладальнік.

*

— Мадам, тое, што ваш муж малы і лысы, гэта не довад для разводу...

— Як гэта не, калі я знайшла сабе высокага і з густым чубам?!



— Што ў вас новенькага, дарагая... апрача зубоў?

З „Весніка Задрыпопіі"

### ШЛЯХ ДА ПЕРАМОГІ

На чэмпіянаце Ачуцінаўскай акругі ў бегу на сто метраў з бар'ерамі перамогу атрымаў невядомы дагэтуль бягун Чыкілдовіч. Наш карэспандэнт спытаў новага чэмпіёна:

— Што вам памагло атрымаць перамогу?

— Школа, у якую я хадзіў у дзяцінстве, — адказаў сціплы чэмпіён. — Гэта была звычайная вясковая школа, але, каб прайсці да яе, мне даводзілася кожны дзень перасякаць выган, дзе разгульваў раз'юшаны бык.



З суседскага агародчыка

### НА ФОРУМ!

Няхай і згрыбеў я,  
І чуюся хворым,  
Старым і нямоглым —  
Паеду на форум!  
Хоць вельмі далёка,  
І кратацца нехаць —  
Паеду! Бо можа  
Хтось іншы паехаць!  
А будзе ж  
Не проста нарада,  
А форум.  
І будзе ва ўсім там  
На ўзроўні дэкорум.  
І камеры  
Будуць наводзіць  
Старанна —  
Для прэсы,  
Для тэле-  
І кінаэкрана.  
Вядома,  
Там выседзець  
Будзе мне цяжка:  
Звядзе паясніцу,  
Адымецца ляжка...  
Таму я з сабою  
Вазьму раскладушку,  
Каб там жа прылегчы  
І выдаць „храпушку".  
На выпадак горшы —  
Для помачы хуткай —  
Вазьму медсястру я  
З лякарствам і з „вуткай".  
Вазьму і суфлёра —  
Каб мне мае думы  
Падказваў, як буду  
Гагакаць з трыбуны...  
А кліч мой галоўны  
Там будзе адзін:  
„Гэй, моладзі зводльнай  
Дарогу дадзім!.."

**Ніл Гілевіч**

## Курёзы

### ТАЙНА ПАЛІЦЭЙСКІХ

З аўтаматычнай камеры захоўвання галоўнага чыгуначнага вакзала ў Гамбургу (ФРГ) паліцыя вынесла поўны чамадан гераіну. Яго даставілі ў памяшканне паліцэйпрэзідыума і замкнулі ў спецыяльны сейф на пятым паверсе. Назаўтра наркотыкаў у сейфе не было, хаця доступ у гэтае памяшканне (а тым больш ключы ад сейфа) маюць толькі супрацоўнікі групы барацьбы з наркотыкамі.

### КАЛІ СУДЗЯЦЬ МАФІЮ

У канадскім горадзе Жальет суддзя ніяк не мог сабраць прысяжных засядацеляў для слухання адной справы, звязанай з мафіяй. Ніхто з гараджан не пажадаў мець справу з гангстэрамі. Таму суддзя загадаў паліцэйскім лавіць пешаходаў, якія трапілі пад руку, і цягнуць іх у суд у якасці прысяжных. Калі аб гэтым распараджэнні даведаліся ў горадзе, вуліцы зусім апусцелі. Толькі позна вечарам суддзя змог набраць патрэбных законам 12 прысяжных, ды і тыя былі іншагароднімі.




У таго, хто трымае язык за зубамі, усе зубы цэлы.